


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

**№ 9 (703)**
**Верасень 2024 г.**



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*


# Жнівеньскі беларускі пікнік у Сэнтрал-Парку

У нядзелю 11 жніўня ў Сэнтрал-Парку на Мангэтане прайшоў беларускі пікнік, які сабраў разам землякоў-беларусаў зь Нью-Ёрку і ваколіцаў. На Sheep Meadow здалёк былі бачныя два беларускія сьцягі, што арыентавалі людзей на месца сходу. Удзельнікі імпрэзы прыходзілі, прыносілі свае пачастункі, знаёміліся, абменьваліся інфармацыяй. Надвор'е выдалася добрае, і луг у парку стаў ідэальным месцам для таварыскай сустрэчы.

Імпрэза была прымеркаваная да 4-й гадавіны прэзыдэнцкіх выбараў 2020 году ў Беларусі і масавых дэманстрацыяў супраць фальсыфікацыі вынікаў выбараў, якія пасьля сталі адзначацца як 9 жніўня – Дзень Салідарнасьці зь Беларусьсю, Дзень Годнасьці. Затым былі меры рэжыму ў адказ. Зафіксавана каля 75 тысяч затрыманьняў і выпадкаў перасьледу, і каля 1400 чалавек знаходзяцца за кратамі як палітвязьні. У выніку рэпрэсіяў, якімі рэжым адказаў на патрабаваньні аб свабодзе і справядлівасьці ў краіне, тысячы беларусаў былі вымушаныя зьехаць за мяжу, ратуючыся ад перасьледу. Апынуўшыся на чужыне, людзі з гэтай хвалі эміграцыі працягваюць падтрымліваць кантакты зь беларускімі арганізацыямі, і шмат зь іх мараць вярнуцца на Бацькаўшчыну і ўзьяднацца з бацькамі й сваякамі.

І аб гэтым усім распавяла напачатку імпрэзы-пікніка старшыня Асацыяцыі Беларусаў у Амэрыцы (АБА) і групы ў Фэйсбуку "Беларусы ЗША – Разам Лягчэй" сп-ня Ганна Шарко. Прамоўца адзначыла, што 4 гады таму ў Беларусі адбыўся беспрэцэдэнтны народны ўздым, стыхійны самаарганізаваны пратэст супраць дыктатуры Лукашэнкі, якая вось ужо 30 год пануе ў краіне, гандлюючы нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі й праводзячы антынацыянальную палітыку, каб дагадзіць расейскім шавіністычным уладам. Хвілінай цішы прысутныя адзначылі памяць беларусаў, што загінулі ў змаганьні за свабоду, незалежнасьць і дэмакратыю ў Беларусі. Прамоўца падкрэсьліла, што гэтыя ахвяры і гэтае змаганьне былі недарэмнымі, яны працягваюць натхняць і аб'ядноўваць людзей. І вось сёньня мы сабраліся тут, каб ушанаваць гадавіну тых падзеяў, але і яшчэ каб пабыць сярод сваіх людзей, каб даведацца апошнія навіны, каб пачуць сваю мову.

З мэтаю навязваньня кантактаў і пашырэньня салідарнасьці вядоўца прапанавала крэатыўна пазнаёміцца – вылучыцца ў некалькі групаў, з дапамогай рознакаляровых цэтлікаў, якія былі раздадзеныя ўсім удзельнікам, і паспрабаваць разабрацца, на якіх прынцыпах былі арганізаваныя групы, а ў працэсе разгаварыцца, бліжэй спазнаць адзін аднаго, каб пасьля ўжо запомніць і,

***заканчэньне на бачыне 4***



# Адзначэньне Дня Аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі, 25 Жніўня

У нядзелю 25 жніўня 2024 году ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылося адзначэньне адной з найважнейшых датаў сучаснай беларускай гісторыі – Дня Аднаўленьня Незалежнасьці. У гэты дзень, 25 жніўня 1991 году, тагачасны Вярхоўны Савет тагачаснай БССР прыняў пастанову аб наданьні канстытуцыйнай сілы Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі. У юрыдычным сэнсе і па канонах міжнароднага права Беларусь тым самым узяла сабе права будаваць незалежную дзяржаву і карыстацца ўсімі належачымі ёй атрыбутамі. Гэтае права было неўзабаве прызнанае дзяржавамі сьвету, якія заявілі аб прызнаньні незалежнай Рэспублікі Беларусь. Першай сярод іх была Польшча, затым балтыйскія краіны і пасьля новаўтвораныя Ўкраіна, Расейская Фэдэрацыя й іншыя краіны былога СССР, і затым усе краіны сьвету.

Гэтая дата замоўчваецца ў сучаснай Рэспубліцы Беларусь, як і наагул усё, што папярэднічала і адбывалася ў часы аднаўленьня незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе. Але на самой справе менавіта гэтая падзея стала падвалінай утварэньня незалежнай Рэспублікі Беларусь, і таксама зрабіла мажлівай пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ды розныя іншыя атрыбуты сувэрэннай дзяржавы.

Часта можна было чуць, што незалежнасьць звалілася беларусам зь неба. З аднаго боку, тут ёсьць каліўца праўды, бо значная частка насельніцтва Беларусі, што дзесяцігодзьдзямі русыфікавалася й асымілявалася ў расейскае культурнае поле, была негатовая да такіх радыкальных зьменаў, як незалежнасьць краіны. І таму рэальнай альтэрнатывай незалежнасьці магла стаць інкарпарацыя ў Расейскую Фэдэрацыю, на якую з ахвотай пайшлі б, і нават пабеглі б, камуністычныя кіраўнікі тагачаснага ўраду БССР. І вось дзеля гэтага, з другога боку, можна аўтарытэтна і абгрунтавана сьцьвярджаць, што незалежнасьць Беларусі 1991 году стала вынікам тытанічнай ахвярнай і эфэктоўнай працы беларускіх адраджэнцаў – групы дэпутатаў Беларускага Народнага Фронту, іншых дэпутатаў дэмакратычнай скіраванасьці і шырокіх колаў актывістаў ды звычайных грамадзянаў, якія ўбачылі сваю будучыню менавіта ў новай, незалежнай Бацькаўшчыне.

Як вядома, у жніўні 1991 году ў Маскве адбыўся дзяржаўны перакул кансэрватыўных камуністычных сілаў, якія плянавалі спыніць працэс дэзынтэграцыі і распаду Савецкага Саюзу – дзяржавы, што сталася вынікам утапічных праектаў, тэрору і беспрэцэндэнтных рэпрэсіяў і пакутаў мільёнаў людзей. Гэтае велізарные пачварнае дзяржаўнае стварэньне мела ногі з гліны, якія пачалі расхрышвацца, як толькі паслабілі тэрор і рэпрэсіі, а народы пабачылі для сябе іншы, самастойны шлях жыцьця. Змоўшчыкі-цьвердалобыя камуністы, пацярпеўшы паразу, толькі паскорылі працэсы распаду. І вось пасьля паразы той змовы, на запатрабаваньне Беларускага Народнага Фронту была скліканая нечарговая сэсія Вярхоўнага Савету Беларусі. Абсалютную бальшыню там складалі камуністы, але парлямэнцкай меншыні, фракцыі БНФ, удалося пераканаць інэртную, а таксама перапалоханую большасьць камуністаў у тым, што справы краіны можна вырашаць найэфэктоўна толькі самым беларусам. Дзеля гэтага дэпутацкая меншасьць начале з дэпутатам і кіраўніком БНФ сп. Зянонам Пазьняком дамаглася, каб Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР была нададзеная сіла канстытуцыйнага закону. Гэта было нялёгка, але гэта было зроблена – і на мапе сьвету зьявілася незалежная Рэспубліка Беларусь. Рэшта, як кажуць – ужо гісторыя.

Напачатку імпрэзы перад прысутнымі выступіла Старшыня Галоўнай управы БАЗА сп-ня Натальля Федарэнка. Яна павіншавала прысутных са знамянальнай датай 25 жніўня і адзначыла, што гэта вельмі важнае сьвята, якое набывае асаблівую актуальнасьць у нашыя часы, калі незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны знаходзіцца пад пагрозай. "Рух за незалежнасьць дасягнуў перамогі. Дэпутаты Незалежнасьці сталі прадаўжальнікамі справы лідараў БНР і ўсіх змагароў за незалежную Беларусь. І сёньня, калі, нягледзячы ні на што, беларусы імкнуцца вырвацца з кіпцюроў расейскай імпэрыі, гэтая дата паказвае, што перамога магчымая, і што змаганьне прыносіць плён".

Затым зь невялікім рэфэратам пра перадумовы й ход падзеяў у падрыхтоўцы аднаўленьня незалежнасьці Беларусі ў жніўні 1991 году выступіў сябар Галоўнай управы БАЗА і прадстаўнік газэты "Беларус" сп. Міхась Чаропка. Прамоўца спыніўся на стане справаў у Беларусі напрыканцы існаваньня Савецкага Саюзу, адзначыў важнасьць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце 27 ліпеня 1990 году як падмурку сувэрэннасьці, якая пазьней набыла сілу канстытуцыйнага закону і мела той статус аж но да прыняцьця Кан-

заканчэньне на бачыне 3



# Гонка на дно

Большасьць людзей баіцца эзатэрыкі або схаваных ісьцін. Такім чынам яны хочуць пазьбегнуць сутыканеньня з рэальным жыцьцём, такім, якім яно ёсьць у сапраўднасьці. Між іншым тыранія дзяржавы не існавала б, калі б людзі мелі звычку глядзець на эзатэрыку – зазіраць у глыбіню. І гэта была б дрэнная навіна для палітыкаў і чыноўнікаў. Ім трэба было б шукаць сумленную працу, бо людзі назіралі б за імі. Адольф Гітлер казаў: "Якое шчасьце для ўрадаў, што людзі дурныя".

Палітыкі ня дзейнічаюць на карысьць сваёй краіны ці свайго народу. Але мала хто ведае пра гэта. Безумоўна, прагрэсісты – тыя, хто хоча перадаць кіраваньне ўсімі законамі, кантрактамі, паводзінамі і культурнымі нормамі пад кантроль ураду – ня ведаюць гэтага, інакш яны ў жаху разьбегліся.

Так ці інакш падчас кожных выбараў мы чуем адныя і тыя словы і абяцаньні ад палітыкаў і атрымліваем адно і тое ж ад тых, хто знаходзіцца ва ўладзе. Гэта жахліва. Найлепшая назва цяперашніх "выбараў" – гэта гонка на дно. Абедзве партыі ўпарта зьнішчаюць тое, што засталося, у спробах атрымаць палітычную ўладу. Амэрыканскі народ раней спаў, але цяпер ён прачнуўся... і выступае за тое, каб дзяржава ўлезла ў кожны куток іхнага жыцьця. Дайшлі да мяжы!

Глыбокім фонам цяперашніх падзеяў, нябачным для ўсіх, зьяўляецца масавая псыхалягічная вайна супраць амэрыканскага народу, якую вядзе эліта, што знаходзіцца ва ўладзе на працягу 200 гадоў. Яны хочуць, каб маладыя людзі працавалі і ваявалі, а ўжо нямоглыя старэйшыя выміралі як мага хутчэй... вядома, добразычліва. У будучым, праўдападобна, будзе эўтаназія, а пакуль мы можам аддаць іх пад "пяшчотную" апеку мэдыцынскай установы.

Толькі нешматлікія дасьведчаныя ведаюць, што гэта ідэальнае злачынства і вельмі прыбытковае. Каб не ўдавацца тут у тлумачэньні аб манэтарным рэалізме, прачытайце пра гэта лекцыю Мэрыл Джэнкінс. Тады вы зможаце паверыць у сказанае вышэй, і зьменіцеся назаўжды.

Валодаць сваім эга – значыць жыць у рэальнасьці. Эга – гэта я, і азначае індывідуальнасьць. Звычайнае выкарыстаньне слова эга мае на ўвазе ганарыстасьць, але тут яно проста азначае ўльтра-выяўленьне асобы ў адрозненьне ад групы.

Групавая дынаміка спрые альтруізму і адключэньню розуму ад рэальнасьці. Групы сацыялізуюць людзей і дэгуманізуюць. Тысячы арганізацыяў цягам стагодзьдзяў узьніклі ня проста так. Яны былі натхнёныя зь меркаваньняў кантролю. Простае "братэрства людзей" гучыць даволі нявінна, але гэта цудоўна ў будаўніцтве імпэрыі. Групавы або статкавы інстынкт значна зьніжае патрэбу ў агрэсіўнай паліцэйскай сіле.

Чым большыя масы сагнаныя, тым менш людзей трэба зьверху, каб кантраляваць іх і весьці шоу. Вось чаму абраныя службовыя асобы, якія прызначаныя для таго, каб служыць нам, прэтэндуюць на тое, каб быць нашымі лідэрамі, чыноўнікамі, заканадаўцамі і людзьмі "ўлады". Улада ненавідзіць людзкую індывідуальнасьць. Менавіта зьнішчэньне асобы зь цягам часу прывяло да цяперашняга стану нашага грамадзтва.

Толькі калі прытрымліваецца асноватворных ідэалаў, такіх як прадстаўнічая рэспубліка, сапраўдная свабода і індывідуальнасьць, на якіх была пабудаваная амэрыканская нацыя, яна будзе квітнець. Гэта ніякія не "аўтарытарныя" тэрміны, зь якіх нам варта пасьмяяцца, як хочуць нас запэўніць СМІ. Патлумачыць людзям такія ісьціны – гэта ўмяшаньне ў выбары і хітрая палітычная дэмагогія. Уся рэклама вакол нас зробленая для таго, каб заспакоіць усіх праз хлеб і відовішчы. Гэта палітычны тэатар. Калектыў хоча, каб на зьмену імкненьню да свабоды і вольнасьці прыйшло імкненьне да матэрыяльных дабротаў і пустых забаваў. Не купляйцеся на гэта!

***Б. Л.***

***заканчэньне з бачыны 2***

стытуцыі Беларусі ў сакавіку 1994 г. У першым артыкуле Дэклярацыя абвяшчала дзяржаву, якая "...ўсталявана на аснове ажыцьцяўленьня беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэньне, дзяржаўнасьці беларускай мовы, вяршэнства народу ў вызначэньні свайго лёсу". Затым, пасьля паразы камуністычнага путчу, надыйшоў ключавы момант – ужо гатовая Дэклярацыя павінна была стаць практычным пачынем для стварэньня сапраўднай, а не савецка-бутафорскай, дзяржавы. Дэпутаты Незалежнасьці кіраваліся ня толькі палітычнымі аспэктамі, але і глыбокім разуменьнем свабоды, самастойнага шляху разьвіцьця краіны. Цяпер тыранія Лукашэнкі вынішчае ўсё, што было дасягнута ў тыя дні, але рашучыя і мужныя людзі, як некалі тыя дэпутаты, працягваюць змаганьне, і сьведчаньне гэтаму – уздым 2020 году, беспрэцэдэнтная для нашай гісторыі падзея, або нават цэлы пэрыяд часу. І цяпер мы ўсе мусім працаваць на карысьць Бацькаўшчыны, а найперш – яднацца, каардынаваць свае дзеяньні, гуртаваць сілы.

З прывітаньнем да прысутных таксама выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка. Ён прывітаў прысутных і адзначыў, што дата 25 жніўня 1991 году стала падзеяй, якая практычна ажыцьцявіла ўтварэньне незалежнай Беларусі, забясьпечыла праўныя юрыдычныя падваліны яе. Але часьцяком слова "незалежнасьць" застаецца абстрактным, і для нас важна прамаўляць ягонае значаньне, паказваць яго сілу. Як гэта рабіць? Унівэрсальнай адзінкай вымярэньня важнасьці й эфэктоўнасьці грамадзкага паняцьця ёсьць чалавечае жыцьцё. Дык вось колькі чалавечых жыцьцяў выратавала Беларуская Незалежнасьць? Колькі беларускіх людзей не загінулі ў авантурах Расеі: на зямлі Абхазіі, у дзьвух чачэнскіх войнах, у агрэсіі супраць Грузіі (2008 г.) й Украіны (2014 г.), у авантурах у Сірыі й Афрыцы, і нарэшце, у адкрытай вайне супраць братняй Украіны? Колькі дзяцей, жанок і старых не аплаквалі страту сына, брата, бацькі? Мы можам і мусім больш рашуча і ўпэўнена гаварыць пра гэта. Мы мусім падкрэсьліваць, што менавіта ў незалежнай краіне, без адчуваньня ўласнай другаснасьці, падпарадкаванасьці, людзі Беларусі змогуць рэалізаваць сябе, сваю творчую патэнцыю, якая ва ўсіх народаў падпітваецца выразнымі патрыятычнымі пачуцьцямі. Яны ня будуць закладнікамі чужой волі й ахвярамі чужынскіх плянаў і пралікаў, як шмат разоў бывала ў мінулым. І тое, што было запачаткавана 25 сакавіка 1918 году, і было працягнута 25 жніўня 1991 – ёсьць зарукай таму.

Затым прысутныя глядзелі дакумэнтальны фільм пра падзеі жніўня 1991 году, падрыхтаваны "Радыё Свабода".

З прывітальным словам выступілі таксама радная Рады БНР сп-ня Ганна Сурмач і амэрыканскі вайсковец і беларускі патрыёт сп. Зьміцер Левіт. Яны павіншавалі прысутных і ў сваіх выступах падзяліліся ўспамінамі пра падзеі 15 жніўня 1991 г. і падкрэсьлілі важнасьць гэтай даты.

Затым прысутныя мелі мажлівасьць знаёміцца бліжэй і калегавацца зь землякамі-беларусамі пры каве і пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***

## Жнівеньскі пікнік

*заканчэньне з бач. 1*

магчыма, пасябраваць. Было весела і забаўляльна. Сапраўды, па такой мэтодыцы вельмі эфэктоўна можна знаёміцца людзям у вялікіх групах.

Перад прысутнымі выступіла гісторык і архівіст сп-ня Натальля Гардзіенка, яна распавяла пра сябе і сваю дзейнасьць, а таксама пра разнастайныя праекты, зьвязаныя з вывучэньнем гісторыі беларускай грамады ў Амэрыцы, згадала выданьні, якія выйшлі апошнім часам пра беларусаў у ЗША.

Затым сябар Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) і прадстаўнік газэты "Беларус" сп. Міхась Чаропка распавёў пра дзейнасьць БАЗА і онлайн-вэрсію газэты і паінфармаваў пра надыходзячую неўзабаве імпрэзу – сьвяткаваньне дня адраджэньня Незалежнасьці Беларусі, 25 жніўня – у гэты дзень у 1991 годзе была нададзеная сіла канстытуцыйнага закону Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі (1990 г.).

Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка распавёў пра гісторыю і дзейнасьць сваёй арганізацыі і паведаміў пра намер паспрабаваць аднавіць рэгулярныя сходы арганізацыі, і дзеля гэтага ў бліжэйшы месяц-паўтара правесьці сход для новапрыбылых землякоў, на якім знаўцы-экспэрты, гэта значыць тыя, хто ўжо мае нейкія дасягненьні тут, у Амэрыцы, распавялі пра сваю працу, як атрымалі адукацыю ў ЗША, адкуль бралі Ёрку і ваколіцаў, а таксама па ўсёй Амэрыцы, падаравалі букет бел-чырвона-белых кветак.

На імпрэзе быў праведзены збор грошай на дзяцей беларускіх палітзьняволеных. Імпрэза прайшла ў цёплай, та-



сродкі, чаму абралі менавіта сваю галіну дзейнасьці.

Ганну Шарко павіншавалі з днём нарадзінаў і падзякавалі за актыўную дзейнасьць сярод беларускай грамады Нью-варыскай атмасфэры, было шмат людзей, якія ўпершыню прысутнічалі на беларускай імпрэзе ў ЗША.

***Віталь ЗАЙКА***

## Шаноўнае спадарства!

**Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня"** сумесна з **Асацыяцыяй Беларусаў у Амэрыцы (АБА)** праводзіць **28 верасьня 2024 году** свой тэматычны сход-сустрэчу, прысьвечаную інфармаваньню новапрыбылых землякоў, а таксама ўсіх цікаўных, закранаючы розныя аспэкты ўсталяваньня жыцьця ў Амэрыцы, а ў прыватнасьці, пытаньні выбару месца вучобы і галіны працоўнай дзейнасьці:

- як пачаць навучаньне;
- дзе знайсьці стыпэндыю і дапамогу;
- як шукаць і атрымаць працу.

Перад прысутнымі выступяць знаўцы-экспэрты, што маюць пэўныя дасягненьні ў новай краіне і хочуць падзяліцца сваімі ведамі зь землякамі і ахвотна адкажуць на пытаньні прысутных.

**Дата і час сустрэчы:** **28 верасьня 2024 году**, 5:30—9:00 гадз. вечара.

**Адрас сустрэчы:** ***151 West 30th Steet, 3rd Floor, New York, NY 10001*** *(Мідтаўн-Мангэтан).*

Запрашаем ўсіх узяць удзел у сустрэчы і паведаміць пра яе сябрам і знаёмым!

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"** ***Viktar Yedzinovich.***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**Д. Калесьнік . . . . . . . . . . . . . .70**
**А. Петруковіч . . . . . . . . . . . .60**

**Шчыры дзякуй!**

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**А. Петруковіч . . . . . . . . . . . .30**
**Усім шчыры дзякуй!**